# НАВІНКІ

Серада, 18 сакавіка 1998 | № 2 | Кошт свабодны

Як стварыць сацыял-дэмакратычную арганізацыю. Парады спэцыялістаў 4

Хто стаяў за сьмерцю Даяны? Сучасны бэстсэлер: Тайна дому Віндзараў. 6

Ірляндзкі народны эпас “У масьцях брыгады”. Эксцэнтрычны комікс 13



# зайцы for*ever!*

8

Учора на ініцыятыву газэты “Навінкі” была праведзеная акцыя спаленьня ненавіснай валюты перад амэрыканскай амбасадай. Кожны сьведамы грамадзянін прынес некалькі даляраў (у каго колькі было) й кідаў у вялікуюкучу, скандуючы: “Подавитесь! Подавитесь!”

## “Не — даляру!” — кажуць грамадзяне, заклапочаныя абвальным ростам бакса

Агулам было сабрана 80. 343 даляры. Пасьля невялічкага мітынгу зялёная куча пад улюлюканьне натоўпу была падпаленая. На гэта супрацоўнікі амбасады адказалі адэкватна: яны выграбалі са сваіх кішэняў мятыя паперкі з “Пагоняй”, камкалі й кідалі ў дэманстрантаў...

# РЭЗАНАНС

Выхад першага нумару газэты "Навінкі" быў заўважаны як у нашай краіне, гэтак і за мяжой. Падрабязнасьці ніжэй...




## Спрэчкі ў Кангрэсе скончыліся кансэнсусам

Плянавыя слуханьні ў Кангрэсе наконт пытаньня аб выдзяленьні чарговага траншу на падтрымку беларускай незалежнай прэсы выявілі глыбокія разыходжаньні па гэтай праблеме між дэпутатацкімі фракцыямі ад рэспубліканскай і дэмакратычнай партыяў. Лідэр парлямэнцкай большасьці рэспубліканец Робэрт Доўл закаціў гістэрыку. Патрасаючы сьвежым нумарам газэты "Навінкі", ён праравўся ў прэзыдыюм і пачаў палівацъ з графіна прадстаўнікоў дэмакратаў. "Колькі можна карміць гэтых усходне-эўрапейскіх дармаедаў! Паглядзіце, на што йдуць грошы амэрыканцкіх падаткаплацельшчыкаў! На 12 палосах я не знайшоў ніводнага слова пра дэмакратыю й рынкавую эканоміку!"

Клінтан зрабіў спробу супакоіць разьюшанага парлямэнтара словамі: "Ну чаму ж, выхад такой




газэты — яскравы доказ таму, што наша палітыка падтрымкі незалежнай прэсы ў Беларусі скончылася перамогай. "Навінкі" — лакмусавая паперка дэмакратыі. Такая газэта магла зьявіцца толькі ў свабоднай краіне. Я кампэтэнтна заяўляю, што ў Беларусі існуе свабода слова!" (Працяглыя аплядысмэнты. Страта прытомнасьці ў двух гасьцёў-беларусаў.)

У выніку галасаваньня Кангрэс адзінагалосна вырашыў урэзаць чарговы транш на падтрымку незалежнай прэсы. Газэтам "Згода", "Беларуская Маладзёжная", "Славянский набат", "Двое" увогуле адмоўлена ў фінансаваньні. ●

# DER SPIEGEL

## Рэпатрыяцыя ў "Навінкі"

Вяртаньне вядомага палітычнага беларускага дзеяча Генадзя Грушавога шмат назіральнікаў не выпадкова зьвязваюць з выхадам у свет першага нумару газэты "Навінкі". Відавочна, што Грушавому , які вядомы ў колах беларускіх палітыкаў сваімі амбіцыёзнымі плянамі, замінае малады пэрспэктыўны рух навінкаўцаў , які аб'дноўвае вакол сябе маладую эліту. Сацыялягічныя апытаньні сьведчаць, што калі б сёньня на двары былі прэзыдэнцкія выбары за блёк рэформаў "Навінкі" галасавалі да 35 адсоткаў насельніцтва, у той час як за Блёк Грушэўскіх Хрысьціян-Баптыстаў толькі 1,4. Астатнія альбо ня вызначыліся, альбо ўвогуле ня пойдуць галасаваць.У гэтым кантэсьце нямецкаму ўраду і Радзе Еўропы ёсьць сэнс задумацца над тым ад каго трэба чакаць дывэдэндаў і нарэшце пачаць разьмяркоўваць фінансавую дапамогу тым за кім будучыня. ●

# Народная Воля

## Чарговая правакацыя КГБ

Зноў беларускія спэцслужбы імкнуцца ачарніць у вачах нашага грамадзтва беларускую дэмакратычную апазыцыю.

На днях сярод студэнцкай моладзі пачаў распаўсюджвацца брудны лісток пад назвай *Навінкі*, у якім брудна паносяцца лідэры беларускай дэмакратычнай апазыцыі, цынічна перакручваюцца рэальныя факты ў дачыненьні дэмакратычных арганізацыяў і іхнай дзейнасьці. Аўтары гэтай паперкі замахнуліся на самае сьвятое для нашага шматпакутнага народу - ідэю Незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, яе дабрабыт, заможнасьць і заўтрашні дзень. Усе дэмакратычна настроеныя грамадзяне мусяць прыпыніць распаўсюджаньне тлетворнага для нашае моладзі - нашага заўтрашняга дню - бруднага лістка, які ня толькі зводзіць маладое пакаленьне ад барацьбы за ідэалы дэмакратыі, але й спрыяе росту сярод маладых адмоўнага стаўленьня да гэтых ідэалаў. Аўтараў газэты *Навінкі* як ворагаў Незалежнасьці й Дэмакратыі — пакараць як бешаных сабак! ●




## Чарговая правакацыя Захаду

Зноў заходнія спэцслужбы імкнуцца ачарніць у вачах працоўных беларускі канстытуцыйны парадак. На днях сярод студэнцкай моладзі пачаў распаўсюджвацца брудны лісток пад назвай *Навінкі*, у якім брудна паносяцца беларускі канстытуцыйны лад, цынічна перакручваюцца рэальныя факты ў дачыненьні законных уладаў і іхнай дзейнасьці. Аўтары гэтай паперкі замахнуліся на самае сьвятое для нашага шматпакутнага народу - ідэю Славянскага Адзінства й курсу на інтэграцыю з братняй Расеяй. Усе палітычна сьвядомыя грамадзяне мусяць прыпыніць распаўсюджаньне тлетворнага для нашае моладзі - нашага заўтрашняга дню - бруднага лістка, які ня толькі зводзіць маладое пакаленьне ад барацьбы за славянскую ідэю, але й спрыяе росту сярод маладых адмоўнага стаўленьня да праваслаўнай маралі. Бешаных сабак з газэты *Навінкі*, як ворагаў Славянскага Адзінства і курсу на інтэграцыю — да вышэйшай меры! ●




## Парк чарнобыльскага пэрыяду

Вядомы амэрыканскі рэжысэр Спілбэрг у інтэрвію нашаму карэспандэнту пацьвердзіў інфармацыю, якая прагучала па радыё “Навінкі 101,2”. Згодна ёй, першую й друю частку сваёй эпапэі “Парк юрскага пэрыяду” Спілбэрг здымаў у Брагінскім раёне Рэспублікі Беларусь. У якасьці дэкарацыяў для фільма яму служылі натуральныя птушкі-мутанты (у ролі птэрадактыляў), гіганцкія лысыя вожыкі (тыраназаўры), пляшывыя вавёркі-пераросткі (брантазаўры) і іншыя прадукты чарнобыльскай аварыі. Па словах Спілбэрга, такімі пачварнымі істотамі багатая мясцовая прырода.
Да таго ж Спілбэрг добра падняўся ў грошах, сэканоміўшы на ўласныя патрэбы 100 тысячаў даляраў, якія яму прадставіў ягоны прад'юсар на стварэньне рухавых макетаў дагістарычных яшчараў і спэцэфэкты.
Што да праблемаў бясьпекі, то яе захоўвалі мясцовыя бамжы, якія аблюбавалі гэтыя мясьціны для дробных рабаваньняў і марадзёрства. Яны дакладна вывучылі паводкі мутантаў і нават некаторых прыручылі й выкарыстоўваюць для збору бутэлек. Кажуць, і праблемаў з канкурэнтамі нашмат меней.
Спілбэрг паскардзіўся таксама на мучэньні сумленьня й думае адмыслова зьняць фільм пра Чарнобыльскія мясьціны. Фільм мяркуецца быць касавым. ●




## Польшча стала далей

Ужо каторы дзень амэрыканскія грамадзяне знаходзяцца ў роспачы й ціхай разьюшанасьці. Натоўпы чалнакоў з кантынэнтальных штатаў скапіліся ў аэрапорце імя Кенэдзі ў чаканьні выезда ў Польшчу. Збыліся прагнозы газэты “Навінкі”, якая яшчэ ў мінулым месяцы, спасылаючыся на сваіх інфарматараў ва ўрадавых колах Польшчы пісала пра магчымыя зьмены парадку ўезду-выезду на тэрыторыю Рэчы Паспалітай для грамадзянаў ЗША. Для большасьці ж амэрыканцаў гэта было нечаканасьцю. Перш за ўсё гэта ўдарыла па чалнаках з штатаў Канзас, Юта, Нэвада і некат. інш., адзінай крыніцай існаваньня сем'яў якіх была кантрабандны гандаль сьпіртам, цыгарэтамі, таннымі джынсамі і выкарыстанымі зорна-паласатымі сьцягамі. Апусьцеў вядомы рэчавы рынак Нью-Ёрку, які разьмяшчаўся на Велатрэку, на фондавых біржах акцыі карпарацыі Duty Free Shop's рэзка папаўзьлі долу.
Чалнакі ў сваю чаргу зьбіраюцца прапікетаваць амбасаду й гандлёвае прадстаўніцтва Польшчы і вымагаюць ад ураду пазбавіць гэтую краіну статусу краіны, дзе свабодна прадаецца Coca-Cola і дзейнічае сетка рэстаранаў McDonald's. ●




## Ці выключаць Францыю з Рады Эўропы?

Сэнсацыйны матэрыял, які зьявўся на старонках Інтэрнэтаўскай вэрсіі беларускай газэты “Навінкі”, выклікаў сур'ёзныя абвінавачаньні ў бок Францыі на пазачарговай нарадзе Рады Эўропы. Сутнасьць пытаньня —нелегальная эміграцыя з Францыі ў краіны Блізкага Ўсходу з мэтай атрыманьня культурнага й палітычнага прытулку. Матэрыял “Навінак” сьведчыць пра тое, што на беларуска-ўкраінскай мяжы прыпыненая калёна рэфрыжыратараў з нібы тушкамі французскіх жабак. На самой справе, як выявілі доблесныя беларускія мытнікі, у кантэйнерах штабэлямі ляжалі замёрзшыя французскія прадстаўнікі сярэдняе клясы. канчатковым пунктам іхнага падарожжа быў Пашночны Курдыстан. На пытаньне, што падштурхнула французскіх буржуа драць когці на Ўсход. яны са сьлязьмі спасылаліся на хлусьлівую інфармацыю, якую яны выкачалі з таго ж Інтэрнэту і прычым з таго ж сэрвэра www//http/navinki^com., згодна якой Рэвалюцыйны Часовы Ўрад Курдыстану прадастаўляе ўсім жадаючым статус палітычных уцекачоў з Эўрапейскай Супольнасьці.
Курдыстан рубам паставіў пытаньне аб заходне-эўрапейскіх палітычных уцекачоў на ўзаданай вышэй нарадзе Рады Эўропы, сябрам якой ён зьяўляецца з 1942 году. Рада Эўропы вырашыла пазбавіць Францыю права праводзіць у сябе Кубак сьвету па футболу 1998 году. Гонар рабіць футбольнае сьвята перададзенае Паўднёваму Курдыстану. ●



# ЯШЧЭ АДЗІН НОЖ У СЬПІНУ ДЭМАКРАТЫІ

Як правіла, слаба зарыентаваныя ў каньюктуры партыяў і рухаў, неафіты ад палітыкі падчас робяць фатальную і амаль непапраўную памылку — яны ўступаюць у зачуханыя і беспэрспэктыўныя арганізацыі. Калі Вы зрабілі такі выбар, забудзьце назаўседы аб сэмінары ў Карлавых Варах на тэму "Як арганізоўваць сабатаж сярод трактарыстаў і даярак Столінскага раёну". Хутчэй за ўсе Вам прыйдзецца да 5-га курса цягаць на дэманстрацыі цяжэзны транспарант "Дэмакратыя — гэта дабрабыт для ўсіх", пакуль Вы не заробіце сабе грыжу. Што ж рабіць? — усклікне чытач — як зарабіць на хлеб насущный? На шчасьце існуе наша газэта — надзейны компас у сьвеце палітычнай халявы. Мы ўжо пастараемся знайсьці адмыслова для Вас сапраўдны стопрацэнтны вярняк. Вось і сёньня нам ёсьць, што прапанаваць чытачу, які воляй лёсу застаўся без граша ў кішэні. Знаёмцеся: сацыял-дэмакраты — фаварыты надыходзячага палітычнага сэзону ў Эўропе. Зараз яны ўзначальваюць урады Францыі і Англіі. Заўтра, хутчэй за ўсё, перамогуць на фэдэральных выбарах у Нямеччыне. Што гэта азначае? Толькі тое, што беларускаму філіялу ружовых (так называюць сацыял-дэмакратаў за іх сымбаль — ружу) абломяцца такія бабкі, што можна будзе аплаціць усе штрафы Шчукіна да канца стагодзьдзя , нават калі яго будуць штрафаваць штодня.

Сярод будучых пайшчыкаў можаце апынуцца й Вы. Галоўнае — як мага хутчэй задзелацца всамделешным сацыял-дэмакратам і гучней патрабаваць сваю долю ад заходніх цэнтраў. Як гэта зрабіць? Перш-наперш: ні ў якім разе не ўступайце ва ўжо існуючыя сацыял-дэмакратычныя партыі!!! Лепей стварыце сваю ўласную.

Зараз у Беларусі існуюць тры сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, і гэта толькі пачатак. Патэнцыялу ў нашага народу хопіць яшчэ на шмат новых. Напэўна, самае цяжкае, што патрэбна зрабіць для тых , хто вырашыў стварыць новую сацыял-дэмакратычную партыю — гэта прыдумаць назву. Паводле практыкі, яна павінна ўключаць у сябе 4-5 ключавых словаў — грамада, партыя, Беларусь, народная і г.д. Сыходзячы з таго, што ў краіне арудуюць Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада ( лідэр Мікола Шушкевіч) і Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Партыя "Народная грамада" (Станіслаў Статкевіч), мы прапануем наступныя назвы:

**Усё больш і больш маладых людзей, сутыкнуўшыся з матэрыяльнымі праблемамі, вырашаюць падацца ў палітычную апазыцыю. Сапраўды, дзе як ня тут, можна бясплатна нажорціся на сэмінары, нахаляву скатацца за мяжу, на худы канец проста пабачыць жывога амэрыканскага амбасадора. Аднак, мой малады сябра, будзь вельмі асьцярожным, калі ты надумаў зрабіць палітычную кар'еру.**

## ружовы

Грамадная Сацыял-Дэмакратычная Партыя, Сацыял-Дэмакратычная Грамада Народнай Беларусі, Сацыял-Дэмакратычны Народ Партыйных Беларусаў і г.д. на Ваш густ.

Як бачыце, выйсьце ёсьць заўседы. Цяпер, на другім этапе патрэбна інсьпіраваць раскол у шэрагах ужо існуючых, вышэйзгаданых арганізацыяў (так будзе прасьцей зацерціся ў давер да заходніх спонсараў). Для гэтага Вы з сваімі сябрамі-прахадзімцамі ўступаеце ў адну з ружовых партыяў, а недзе праз месяц выходзіце зь яе. Пры гэтым зрабіце публічую заяву, што прычынай вашага выхаду стаў сэксізм і непавага да жанчын, якую праяўляюць члены пэўнай сацыял-дэмакратычнай партыі, бо гэта самыя модныя фенькі сярод сацыял-дэмакратаў на Захадзе, і калі Вы



знайдзі дзесяць адрозьненьняў

прераможца чакае прыз:

поўны збор перапіскі

Статкевіча й Шушкевіча



будзеце выстаўляць сябе як прыхільнік жаночага раўнапраўя — бесклапотны адпачынак дзе-небудзь на пляжах Міжземнамор'я Вам гарантаваны. Калі ж Вы жадаеце перастрахавацца адносна Вашага будучага адпачынку на ўсе 100, заявіце, што Вы педзік, якому кіраўніцтва партыі не дае праходу надакучлівымі заляцаньнямі. Яшчэ лепш, скажыце, што Вы носьбіт ВІЧ-інфэкцыі, зь якім паплечнікі па партыі ня хочуць сядзець на адным унітазе. Гомікі і хворыя на СНІД кацірующца ў тусоўках сацыял-дэмакратаў яшчэ вышэй . Зразумела, што Вашы шанцы на круіз па Міжземным моры адпаведна ўзрастаюць у геамэтрычнай прагрэсіі. Ідэальна, увогуле ўладкаваць раскол адразу ў двух сацыял-дэмакратычных партыях. Напрыклад, абвінавацiць правага Шушкевіча ў сымпатыях да дыктатуры пралетарыяту, а левага Статкевіча ў тым, што ў яго на сьпіне выкалатая татуіроўка "Не забуду прыватызаваць камунальны транспарт". Гэта зробіць вядомы эфэкт і дазволіць Вам аб'яднаць вакол сябе новую порцыю інфантыльных інтэлігентаў, якія звычайна складаюць касьцяк сацыял-дэмакратыі. Нарэшце, у Вас ёсьць гучная назва і прыгожая легенда аб тым, што Вы мучанік сацыял-дэмакратычнай ідэі. Застаецца дробязь — стварыць партыю і адправіць ліст на наступныя адрасы тых, хто Вам абавязкова дапаможа ў Вашай нялёгкай барацьбе за ідэалы сацыял-дэмакратыі. Пры гэтым не забывайце аздабляць свае пасланьні ружачкамі й партрэтамі Вілі Бранта.

Сацыялістычны Інтэрнацыянал
Факс 1044 171 92 044 48

# СЭЗО*Н*

Сацыял-Дэмакратычная Партыя Нямеччыны
Факс 1049 228 532 410

Будзьце ўпэўненыя, што на тым канцы сядзяць людзі, заклапочаныя толькі адным: аказваць грашовую дапамогу такім разгільдзяям як Вы . Яны нават ня будуць слухаць апраўданьняў Шушкевіча-Статкевіча, нават калі апошнія запішуць у свае шэрагі ўсіх наведнікаў сталічнага галоўпаштамту. Што тычыцца Вас — забудзьце пра танныя студэнцкія сталоўкі з маркоўнымі катлетамі. Цяпер Вас будуць чакаць брыфінгі ў лепшых дамах Эўропы і прыёмы ў амбасадах.

P.S. Калі будзеце пералічваць выручаныя грошы, не забудзьцеся пералічыць 5 працэнтаў на карысьць нашай газэты. ●

## Тэст на праверку пройдзенага матэрыялу

1. Хто такі Вілі Брант?
А. Нацысцкі злачынца, паплечнік Вільгельма Кубэ - 3
Б. Ласьён для валасоў - 2
В. Бацька твайго будучага дабрабыту - 1

2.Які сымбаль сацыял-дэмакратыі?
А. Свастыка - 3
Б. Чырвоная ружа - 2
В. 100-марачная купюра - 1

3. За што змагаецца партыя Стакевіча?
А. За Трэці Рэйх у межах 1939 году - 3
Б. За прыватызацыю муніцыпальнага транспарту - 2
В. Супраць партыі Шушкевіча - 1

4. За што змагаецца партыя Шушкевіча?
А. За Рэч Паспалітую ў межах 1772 году - 3
Б. За дыктатуру пралетарыяту - 2
В. Супраць партыі Статкевіча - 1

5. Што самае цяжкае ў працэсе стварэньня новай сацыял-дэмакратычнай партыі?
А. Зьвергнуць Лукашэнку і ўсталяваць дэмакратыю — 3
Б. Пабіць вычваральнікаў сацыял-дэмакратычнай ідэі — 2
В. Трымаць плякат: "Запіс у сацыял-дэмакраты"— 1

6. Якая будучыня чакае Вас, калі Вы скарыстаецеся нашымі парадамі?
А. Вас паб'юць прыхільнікі партыі Статкевіча — 3
Б. Вас паб'юць прыхільнікі партыі Шушкевіча —2
В. Вы будзеце адпачываць на пляжах Міжземнамор'я — 1

7. Каму Вы будзеце ўдзячным за свой будучы дабрабыт?
А. Шушкевічу - 3
Б. Статкевічу - 2
В. Газэце "Навінкі"- 1

Падлічыце балы:
**15-21 балаў** - Вы сапраўдны ідыёт, якому самае месца ў Партыі Здаровага Сэнсу. Да канца сваіх дзён Вам наканавана цягаць транспарант "Беларусь у Эўропу".
**8-14 балаў** - Хутчэй за ўсё, Вы сябра Маладой Грамады. Але Вы маеце шанец выправіцца: паспрабуйце для пачатку разьвесьці Марцылева на піва.
**7 балаў роўна** - Вы рэінкарнацыя Вілі Бранта і Розы Люксэмбург і маеце ўсе шанцы скрыцца з касай Соц'інтэрну. Зычым посьпеху!



# ДА ЮБІЛЕЮ БНР

Пераадолеўшы схематызм і зацыкленасьць гістарычных схемаў, што склаліся ў савецкую эпоху, ні ў якім разе ня трэба прыпыняцца на дасягнутым. Прыйшоў час падвергнуць бязьлітаснаму крытычнаму аналізу міты дэмакратыі, у прыватнасьці казку пра БНР. На самой справе, гэта было так...

# а музыка гучыць

Сучасная інтэрпрэтацыя паходжаньня БНР - халтура. Нават падлетак з Маладога Фронту не паверыць у байку аб п'яным камісары Крывашэіне, які разганяе І-ы Усебеларускі Кангрэс. Дастаткова паглядзець у твар фактам, каб не пакінуць ад вымыслаў розных там эмігранцікаў каменя на камені.

Па-першае нашто было праводзіць Кангрэс у нязручны для гэтай мэты будынку Драматычнага тэатру, калі побач пустуе канцэртная заля "Менск". Па другое, нешта ня верыцца, што нецьвярозы Крывашэін так проста прымусіў 182 дэлегатаў кангрэса бегчы ў гардэроб па свае турэцкія скуранкі. Ведаючы мэнтальны нораў беларусаў можна змадэляваць цалкам іншую рэакцыю: менавіта крутую махалаўку на разы, у параўнаньні зь якой унсоўскія ужымкі 16.04.1996 — дзіцячы утреннік. Падводзячы рысу пад усім вэшэйсказаным, можна было б сьмела выкідаць фэтыш БНР на сьметніцу гістарычных містыфікацыяў, дзе ўжо сьмярдзяць лятучыя талеркі й паўднёва карейскі эканамічны цуд. На шчасьце, як сьведчаць апошнія рэзульгаты археалягічных дасьледваньняў прафэсара Трусава соцыякультурнае яўленьне БНР было куды маштабнейшае, чым фронтаўскія страшылкі пра мутанта-чарапаху Крывашэіна і крутую банду беларускіх дэлегатаў. Трагізм демакратычнай інтэрпрэтацыі гістарычнага фэномэна БНР заключаўся ў тым, што пад увагу не браліся культуралягічны падмурак беларускага адраджэньня.

Усім вядома, што напачатку нашага стагодзьдзя сярод шляхецкай моладзі вялікай папулярнасьцю карысталіся розныя чумныя фенькі: то іракез наставіць, то набухацца ў Вялікдзень, то гарланіць розныя страшныя песьні. Сяляне ўспрымалі такія паводзіны з жахам і лічылі барскімі забавамі, а ахвочых да такіх справаў маладых гімназістаў назвалі панкамі. (Адсюль і народная прымаўка: "Напіўся (надзёрся, нажорся й г.д.) як панок). Традыцыйным месцам для сваіх сустрэч, якія яны звалі тутэшоўкамі, была станцыя конкі "Кастрычніцкая" (названая так у гонар Маніфэста Мікалая ІІ ад 9 кастрычніка 1905 аб дараваньні палітычных свабод). Калі на тутэйшоках праз габрэяў, у якіх былі сваякі за мяжой зьявіліся грамафонныя кружэлкі заходняга андэграўнда, мясцовыя панкі канчаткова вызначыліся ў музычных і эстэтычных густах.

Маскоўскай папсе прыйшлося пацясьніцца зь першых радкоў хіт-парадаў. Першыя месцы стала акупавалі панкоўскія рэчы, кшталту альбому "Der Manifest" аўстра-вугорскага калектыву "Die Kommunistische Partei". Участковыя вусатыя ураднікі не пасьпявалі канфіскоўваць у тынэйджэраў старэнькія, яшчэ мінулага стагодзьдзя грамафоны Акіян-FS20, якія на ўсю "Кастрычніцкую" трансьлявалі гнюсныя енкі прускага дуэту Кэй-Пі Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса: "Пралетары й пралетаркі ўсіх краёў ,злучайцеся! Fuck! Fuck!" З прысьпеўкамі шпаны атрымлівалася сапраўдная какафонія. Да таго ж фанаты Кэй-Пі размалёўвалі крэйдай прыбіральню ў Аляксандраўскім сквэры надпісы "Маркс ня дзед!". Асабліва скардзіліся жанчыны, калі натыкаліся ў жаночым аддзеле сарціра надпіс "8 сакавіка — міжнародны жаночы дзень".



Тыповы панок пачатку XX стагодзьдзя.

Буржуазная публіка, якая прамэнадзтвавала па Захар'еўскай было вельмі не задаволена. Кулакі ў чарнасоценцаў страшна сьвярбелі.

Самым громкім скандалам часоў утробнага пэрыяду разьвіцьця беларускага панкоўскага руху сталі падзеі 1908, калі ў Менск прыехаў кароль маскоўскай папсы Філіп Шаляпін, каб абкатаць на мясцовай аўдыторыі свой апошні альбом "Жизнь за царя". Вакол канцэрту

адбываўся сапраўдны ажыятаж. Кошт кvіткоў даходзіў да 56 капеек! У прызначаны час заля Палацу Дворянскага Собрания, дзе праходзіла мерапрыемства ламіўся ад жадаючых пабачыць скандальнага сьпевака. Але, не пасьпелі завесьці грамафонную фанаграму як у зале ўзарвалася бомба, у артыста паляцеў град пустых бутэлек, агрызкаў, зь верхніх галерак нехта шпурнуў пачак улётак, якія заклікалі вызваліць зь Петрапаўлаўкі вядомага сталічнага панка Цішку Гартнага... У рэшце канцэрт быў сарваны. Улады беспамылкова вызначылі, што віноўнікамі інцыдэнту былі безумоўна панкі і адказалі жорсткімі рэпрэсіямі. Было забаронена піць піва й насіць бараду іракезам у публічных месцах, 5 панкаў былі сасланыя ў Сібір на катаргу. Але рух толькі набіраў моц. Усё больш і больш падлеткаў адмаўлялася ад буржуазна-памешчыцкіх эстэтычных каштоўнасьцяў, і апрануўшы лапці на высокай шнуроўцы й скураныя папахі — тыповыя прыбамбасы панкаў, — сыходзілі на тутэйшоўку. У 1907 годзе ў Менску ўзнік першы сквот — захоплены дом — пераўтвораны на контар-культурны цэнтар. Паводле дзіўнага зьбегу абставінаў ён знаходзіўся на тым самым месцы, дзе зараз уздымаецца прэзыдэнцкі палац. Быў прыдуманы і распрацаваны нават свой панкаўскі слэнг — так званая тарашкевіца. Тарашкевіца ўганяла вучаніц жаночай гімназіі з вул.Нагорная ў фарбу, а прафэсараў філялёгіі ў сачыненьне бесканцовай сэрыі брашурак, спрабуючы давесьці, што панкоўскі слэнг — гэта брудны лінгвістычны кактэль польскай і расейскай мовы, які быў выдуманы жыда-масонскімі цэнтрамі. Паступова тутэйшых панкоў усё больш не задавальняў статус спажыўцоў заходняй прадукцыі й сьвітак з выявамі Каўцкага й Бэрнштайна. Прыйшоў час стварэньня сваіх гуртоў. Першая спроба датаваная яшчэ 1898 годам, калі ўдзельнікі аднаго кватэрніку, абкурыўшыся каноплямі, абвесьцілі стварэньне гурта "РСДРП". Зранку, калі дурман пачаў адыходзіць, пра РСДРП ужо ніхто не ўзгадваў. Але паколькі гэта была першая спроба, будынак, у якім праходзіў кватэрнік, абвесьцілі музеем.

Больш удалай была другая спроба. У 1905 годзе ў Вільні некалькі маладых панкоў І.Іваноў , П.Пятроў, С.Сідараў і навучэнец кадэцкага корпусу маўрытанскі студэнт Бгманга абралі сабе рамантычныя псэўдонімы (адпаведна, Варонка, Ластоўскі, Ігнатоўскі і Скірмунт-памешчык) і заснавалі гурт "БСГ". Першы склад БСГ быў наступны: саліст Варонка, басцымбалы Ластоўскі, жалейка Скірмунт і, нарэшце, бубны й бэк-вакал Ігнатоўскі. БСГ запісаў першы альбом "Наша доля" і зьняў глуха-нямы кліп, які адразу выклікаў увагу публікі й паліцыі. Як сьледзтва — удзельнікі калектыву былі аддадзеныя ў рэкруты і адпраўленыя на рассейска-японскую вайну.

Ад вайны хлопцы адкасілі, таму справа БСГ не прапала. Ідэя стварэньня свайго беларускага панок-гурта вісела ў паветры, але пляны яе рэалізацыі прыйшлося адкласьці да 1917 году.

У ходзе рэвалюцыйных падзеяў 17-га, калі ў горадзе пачаліся вінныя пагромы, панкі атрымалі другое дыханьне і аднагалосна прыйшлі да думкі, што нарэшце прыйшоў час пакінуць рамкі гнілой тусоўцы і правесьці першы Усебеларускі панкоўскі сэйшн. Нажаль, як заўсёды піва і лень — біч тусоўкі, на доўга расьцягнулі ажыцьцяўленьня задуманага. Толькі з пачаткам зімы пачалася канкрэтная праца. Сэйшн быў прызначаны на 17 сьнежня ў будынку менскага драмтэатру.

Між тым грамадзкая сытуацыя ў горадзе на гэты час рэзка зьмянілася. Захапіўшы ўладу, Гарадзкі Выканаўчы Камітэт складаўся з адных старых пэнсіянэраў-вэтэранаў Крымскай вайны, якія бачылі ў контар-культуры незразумелы прадукт гнілой шляхецкай культуры. Таму амаль напярэдадні 17 сьнежня старшыня ГВК Мясьніковіч выдаў новыя правілы правядзеньня культурных мерапрыемстваў, матывуючы сваё рашэньне фактам пашырэньня кайзэраўскай арміі на ўсход. Безумоўна, было ўжо позна нешта мяняць у заплянаваным канцэрце. Афішы былі ўжо паклееныя, правінцыйныя групы былі на шляху ў Менск.

17 сьнежня зранку каля 200 прыхільнікаў панкоўмузыкі запоўнілі залю драмтэатру. Вядучы вечару прапанаваў пачаць сэйшн з выступу патрыярхаў беларускага панку - удзельнікаў былой БСГ. Варонка, Ластоўскі,Ігнатоўскі і Скірмунт пад гукі апладысмэнтаў выйшлі на сцэну й віталі аўдыторыю . Да мікрафону падышоў Ластоўскі, на якім з адзежы былі толькі бел-чырвона-белыя семейнікі. Ён падзякаваў за прыём і удакладніў, што зараз яны прадстаўляюць не старую БСГ, а свой новы праект — гурт БНР. Яго апошнія словы патанулі ў моры апладысмэнтаў і гуку панкоў-дэцыбэлаў. Ластоўскі істошна запяяў "Мы выйдзем шчырымі радамі!!! Fuck! Fuck! Fuck!" Не пасьпеў ён дацягнуць свой Fuck, як у дзьверах залы зьявіліся ўзброеныя прадстаўнікі адміністрацыі клюбу й пачалі патрабаваць задуць сьвечкі і прыпыніць канцэрт. У адказ панкі пачалі рабіць зь піўных бутэлек розачкі, а Ластоўскі сьцягнуў зь сябе трусы й паказаўшы дырэктару клюбу Крывашэіну свае геніталіі, зароў "Жыве БНР!". "Жыве!" падхапіла тусоўка і пачала целіць бутэлькамі Крывашэіну ў шыю. Але канцэрт разагналі.

Новая аказія правесьці канцэрт у панкоў зьявілася толькі ў сакавіку 1918. Канцэрт выдаўся на славу. Фанаты стварылі фан-клюб і пачалі запісваць усіх жадаючых у грамадзянаў БНР. Галоўным спонсарам канцэрту выступіла нямецкая фірма Mauser, якая пасьля першага ж канцэрту БНР разарвала кантракт. Каб накасіць бабак, гурт БНР выехаў на гастролі па Літве,Польшчы, Чэхіі і далей, пакуль не аселі зь вялікімі мяхамі ганарараў у Злучаных Штатах. ●



Тутэйшоўка менскіх панкоў на станцыі конкі "Кастрычніцкая. Фота 1907г.

# МІНІ-НАВІНКІ

## Кланіраваньне апазыцыі?

"Сучасная беларуская апазыцыя абрэчаная на перамогу", - так лічыць Біл Гір, вядомы ангельскі вучоны ў вобласьці геннай інжынэрыі, вынаходнік мэтаду кланіраваньня. Сутнасьць ягонага адкрыцьця, як напэўна вы ведаеце, палягае ў тым, што маючы жывую клетку фізычнай асобы, Гір бярэцца вывесьці ў прабірцы дакладную копію гэтага чалавека. Прычым, гамункулас будзе насьледаваць ня



толькі зьнешнія, але й псыха-інтэлектуальныя характарыстыкі свайго папярэдніка. Якая сувязь паміж альхімічнымі досьледамі ангельскага ілжэвучонага і калізіямі беларускай палітыкі, спытаеце вы. Самая відавочная. Справа ў тым, што Іван Вашкевіч - дырэктар нядаўна створанага беларуска-польскага цэнтру ў Тэрэспалі запрасіў Гіра ўзначаліць сакрэтную структуру цэнтру - УЮЮЙ-68. Злавесная абрэвіятура аддзелу адпавядае жудасным намерам яго супрацоўнікаў. Гір плянуе ў самы бліжэйшы час пачаць вырошчваць у прабірках двайнікоў лідэраў беларускай палітычнай апазыцыі. Ня трэба мець багатую фантазію, каб уявіць наступствы тэрэспальскага экспэрымэнту. У самым хуткім часе на сьвет будуць выведзеныя - іншага слова й не падбярэш - тысячы ружовашчокіх немаўлят фанатычна заклапочаныя ідэяй зьвяржэньня канстытуцыйнай улады ў Беларусі. Улічваючы, што патэнцыі праграмы нічым не абмежаваныя, можна фармаваць нават цэлыя дывізіі маладых Зянонаў Пазьнякоў, якія будуць пад відам маладзёвага турызму пранікаць у Беларусь і рабіць сваю зорна-паласатую справу. Але хутчэй за ўсё малалетнімі злачынцамі Зянонамі справа ня будзе абмежаваная. Па нашых зьвестках Гір плянуе стварыць копіі ўсіх лідэраў беларускай апазыцыі, для чаго на базе цэнтру будзе ў бліжэйшым часе створаны банк спэрмы. Мянзуркі для яе ўжо пачалі распаўсюджваць на дэмакратычных тусоўках і хутчэй за ўсё біялягічная сыравіна ўжо паступае ў Тэрэспаль. Калі вярстаўся нумар, наша рэдакцыя атрымала апошнія статыстычныя дадзеныя па стану злачынства ў тэрэспальскім ваяводзтве за першыя месяцы 1998 году. Калі прагледзець гэтую статыстыку, нават дэлетанту кідаецца ў вочы незвычайны ўздым дзіцячай злачыннасьці ў краі. Гэтак, у сярэднім на падлеткаў да трох гадоў прыпадае 20 адсоткаў нападзеньняў на паліцыю, 70 адсоткаў справаў аб арганізацыі несанкцыянаваных вулічных шэсьцяў і 98 адсоткаў выпадкаў расьпісваньня сьцен лёзунгамі, якія зьняважаюць годнасьць прэзыдэнта Квасьнеўскага. Такім чынам, новая генэрацыя беларускіх апазыцыянэраў пайшла на дзела.

## Сьцеражыся: тараканавы СНІД

Калі нядаўна ў 17-ым інтэрнаце БДУ пачаўся масавы мор тараканаў, жыхары доўга не маглі нарадавацца: "Дзякуй кітайцам з 710-ай. Мабыць ізноў яны засмажылі сабаку на дзень утварэньня КНР і вытравілі гэтых надыкучлівых казявак". Аднак, як аказалася, жоўтаскурыя студэнты былі ні прычым, бо даўно ўжо харчуюцца Pedy Gree. Узьнікшыя падазрэньні, што справа тут ня чыстая, узмацніліся, калі нехта зьвярнуў увагу на незвычайны ярка зялёны колер тараканаў-нябожчыкаў. Трупікі жывёлін адразу аддалі ў лябараторыю біяфаку, дзе спэцыялісты ўскрылі іх і дасьледавалі іхнія вантробы. Аналіз крыві мёртвых тараканаў дазволіў зрабіць страшэннае адкрыцьцё: тараканаў паразіла эпідэмія СНІДу. Дзе і ад каго казяўкі 17-га інтэрнату падхапілі гэтую заразу застаецца загадкай. Але, паколькі цяжка сабе нават уявіць таракана са шпрыцом, застаецца толькі адна вэрсія - нейкі сьветлагорскі наркот прывез у інтэрнат тараканью самку лёгкіх паводзінаў, якая й заразіла мясцовых членістаногіх небаракаў ВІЧ-інфэкцыяй. Нягледзячы на тое, чалавек ня можа заразіцца ад насякомых СНІДам (вядома пры ўмове, што Вы не вычварэнец-зоофіл), мы раім вам трымаць сваіх хатніх сяброў ад такога кшталту хваробы. Таму пастарайцеся наладзіць з вашымі тараканамі сяброўскія дачыненьні. Рэгулярна іх карміце, выгульвайце і не забудзьце праветрываць пакой. Пэрыядычны мэдычны агляд раз на месяц абавязковы! Запомніце характэрныя прызнакі хваробы на СНІД сярод тараканаў: у самак гэта мутныя вочы й пашыраныя зрэнкі, у самцоў распухлыя геніталіі. Калі ў вас узьнікнуць падазрэньні, адразу зьвяртайцеся да опэратрадаўцаў. Яны ведаюць, як аказаць братам нашым меншым першую дапамогу.

## Патрыятычны альбом Кіркорава

Вядомы балгарскі шавініст Філіп Кіркораў нядаўна паверг у роспач сваіх прыхільнікаў і ўвесь расейскі шоў-бізнэс, заявіўшы ў інтэрвію газэце "Лимонка", што з іміджам поп-зоркі ўжо назаўжды пакончана. "Пара вярнуцца да каранёў" - сказаў Філіп. "Калі іншародцы запаланяюць нашу расейскую эстраду я не магу застацца абыякавым і збоку назіраць, як розныя бязродныя касмапаліты Іванушкі льюць памыі ў вушы праваслаўнага народу!" - дадаў Філіп, сьціпла хаваючы свой турэцкі акцэнт. Пра гэта сьведчыць і новы альбом Кіркорава "Любовь к единственной" (у сэнсе Радзіме).




Колькі любові да роднай зямлі й нянавісьці да яе ворагаў ён здолеў удыхнуць у свае песьні! Чатырнаццаць песень прасякнутыя гарачай любовяй да Бацькаўшчыны, пятнаццатая - да роднай Балгарыі.
Гэты альбом адкрывае нам сапраўднае аблічча Філіпа Кіркорава - гарачага патрыёта і глыбока праваслаўнага чалавека. Пастанова йсьці да канца дзеля сваіх пераканальняў, зьнішчаючы

ўсе перашкоды ("Лишь бы ты меня ждала"), клопат пра тую нездаровую палітычную атмасфэру над сваёй краінай, жорстка крытыкуючы сёньняшні русафобскі рэжым Расеі ("Улетай, тучка, улетай", "Проздно" і інш.), гімн сапраўдных рускіх мужыкоў, зьяднаных у адзіным парыве барацьбы супраць жыдамасонаў ("Лучших слов не надо"), песьня простага расейскага парня, які йдзе на вайну і па дарозе сустракае дзяўчыну, якая жадае яму служыць Радзіме чэсна й сумленна ("Я встретил девушку") - гэтае й шмат іншае можна пачуць у новым, відаць, самым лепшым, альбоме патрыёта Кіркорава. Як паведаміла газэта "День", гэты альбом рэкамэндавалі да праслухоўваньня сваім членам кіраўніцтвы ўсіх нацыянал-патрыятычных арганізацыяў Расеі Міністэрства адукацыі РФ увяла абавязковае азнаямленьне з альбомам "Любовь к единственной" у школах на занятках НВП.

## Publica morale

Чарговы выпадак заляцаньня да сяброў "Чырвонага Жонду" адбыўся на дыскатэцы ў "Рэзэрвацыі", якую зладзіў быў "Малады Фронт". Нейкая грудастая маладзіца са змрочным тварам і фігурай падобнай да марскога канька (відаць, сяброўка "Грамадзянскага Форуму") сумна стаяла ля сьцяны, індыфэрэнтна ўзіраючыся ў натоўп танцаўнікоў. Раптам яна заўважыла побач простага сьціплага хлапца Колю, які задумення разглядаў публіку. Маладзіца запыталася:
- Танцуеш?
- ...Што?..
- Танцаваць пайшлі, што!
- С кім?.. Са мной штоль?..
Паўза. Гучыць музыка. Коля абрэчана пачынае размахваць рукамі й прытанцоўваць на месцы, робячы захады ўхапіць маладзіцу за талію. Тая, працягваючы падпіраць сьценку:
- А ты піва п'еш?
"Абмане!" - падумаў Коля:
- П'ю. А ты што, пачаставаць хочаш?
- Ды не: А ты?
Паўза. Гучыць музыка.
- Не. - Коля ткнуў пад нос маладзіцы сяброўскі білет "Чырвонага Жонду". Вугалкі ейных вачэй сталі яшчэ вэртыкальней.
- Я цябе агарчыў?
- М-м-м-м: - пачулася ў адказ.
Гэтак просты й сьціплы хлапец Коя ня даў сябе абмануць нейкай маладзіцы з фігурай падазронага марскога канька..

## Заява ЦК АПГ "Чырвоны Жонд"

Мы, ад імя нашых таварышаў прыносім свае шчырыя перапрашэньні кіраўніцтву арганізацыі "Малады Фронт" за інцыдэнт, які меў месца 5 сакавіка, калі некалькі нашых таварышаў у нецьвярозым станеь заваліліся ў памяшканьне ўправы БНФ з мэтай расьпіцьця там "Вішнёвага водару". Прабраўшыся ў залю паседжаньняў, яны спрабавалі пачаставаць прэзыдыюм МФ ў асобе Паўла Севярынца й Яўгена Скочку, чым справакавалі сутычку з дружынай БНФ, пакалечыўшы маральную атмасфэру паседжаньня. Цэнтральны камітэт"ЧЖ" у асобе П.Канавальчыка, Л.Ушкіна, Сяргея.С., Міколы. М. разгледзела паводзіны сваіх таварышаў (.Канавальчыка, Л.Ушкіна, Сяргея.С., Міколы. М.) і прызнаў іх неадпаведнымі кодэксу будаўніка камунізму. Усе гэтыя асобы пастаўленыя на від.

*Цэнтральны камітэт Антыпартыйнай групы "Чырвоны Жонд"*

Першае мая на радзіме пралетарскага сьвята ў Чыкага ў адной калёне зь Зянонам Пазьняком — гэтая ўнікальная магчымасьць прапануецца вам, калі вы станеце пераможцам конкурсу "Першамай зь Зянонам". Для гэтага трэба запоўніць наступны купон і даслаць яго ў штаб-кватэру БНФ. Пераможца будзе вызначаны асабіста Зянонам Станіслававічам шляхам сьляпога тыку.

**КУПОН**

Імя ..............................
Імя па бацьку..............................
Прозьвішча..............................
Адрас..............................
Ці зьяўляесься сябрам БНФ (калі так, зь якога году)..............................
Пол мужчынскі (падкрэсьліць)

## Чорная справа Пупцэвіча

Яшчэ адну брутальную змову рыхтуе беларуская апазыцыя ў рамках апэрацыі "Лета'98". Падзельчыкамі змоўнікаў сталі абманутыя тыбецкія буддысты. Апошнія павінны забясьпечыць тэлепартацыю запітых у Ганконгу душаў 10 тысячаў кітайскіх пеўнікаў. Душы спэцыяльна забітых дзеля гэтай справы птушак мусяць справакаваць у Беларусі страшэнны дэмаграфічны выбух, які падарве стабільнасьць у нашай краіне. Непасрэдна за гэтым стаіць вядомы беларускі бізнэсмэн Пупцэвіч, які ў гэты час хаваецца ад чэскіх сілаў аховы парадку за тэлепартацыю ў Чэхію душаў ангельскіх кароваў, што прывяло да рэзкага павелічэньня ліку асобаў асабліва нячэскай нацыянальнасьці.

**БЭСТСЭЛЕР**

# тайна дому Віндараў

*Таксі на Дуброўку хто заказваў? - шафёр новенькага Volkswagen'и, які толькі мякка прыпаркаваўся ля пад'езда гатэлю Рыдс, яўна хваляваўся. Нейкая парачка закаханых у сьпешцы ўскочыла ў аўто.*

*- Гані! - скамандаваў мужчына арабскай нацыянальнасьці, азіраючыся ў сьлед аўтамабілю...*

***

Чарлі рос невыносным гарэзам і разгільдзяем. Зь дзяцінства ён вызначаўся няўстойлівым дзёрзкім характарам. Не было дня, каб ён не пабіўся з аднагодкамі ці не нагрубіў старэйшым. Першы прывод у паліцыю Чарлі меў яшчэ ў дванаццаць гадоў, калі са сваім братком Эндрю клеіўся да прастытутак у прадмесьцях Лёндана, прымушаючы іх да анальнага сэксу. У юнацтве ён быў ужо вельмі віднай фігурай сярод лёнданскай шпаны, дзякуючы галоўным чынам сваім антыманархічным поглядам і перапродажу наркаты па завышаных удвая цэнах. Усё гэта не магло прывесьці яго да дабра.

Аднойчы ў 1977 годзе Чалі разам са сваімі сябрукамі з Sex Pistols, добра нажоршыся, напыхаўшыся й намазаўшыся, падпаліў Букінгемскі палац Яе Вялікасьці каралевы Элізабэт. І апынуцца б маладому Чарлі на лаве падсудных і матаць тэрмін недзе ў Паўднёвай Радэзіі, каб не адна акалічнасьць - Чарлі быў ня проста Чарлі Віндарам. Гэта быў Яго Высокасьць прынц Чарлз, нашчадак брытанскага трону.

Колькі нэрваў і сродкаў падаткаплацельшчыкаў прыйшлося патраціць каралеве-маці, каб адмазаць сваё чада ад правасудзьдзя, зваліўшы адказнасьць за падпал на непаўналетняга Эндрю Віндара. Каб неяк заняць Чарлі й адцягнуць яго ад заганнага кола ягоных знаёмых, каралева Элізабэт абвесьціла вайну Аргентыне нібы з-за Фалклэндзкіх астравоў - спрадвечна ангельскай тэрыторыі. Але каралева пераацаніла здольнасьць Чарлі да перавыхаваньня: той закасіў на пласкастоп'е й на вайну не пайшоў. А потым, каб маральна дабіць сваіх родных, уступіў у Камуністычную Партыю Злучанага Каралеўства.

Пакуль праходзіў ягоны кандыдацкі стаж у партыі, Чарлі патрапілася на вочы незаўважная таненькая кніжачка, якая называлася "Новая зямля". Менавіта тады Чарлі жарсна й назаўсды закахаўся ў першую краіну разьвітага сацыялізму...

***

*- Ну нарэшце адвязаліся ад гэтых праклятых журналюг! - з аблягчэньнем выдыхнула дама, зазіраючы ў люстра задняга віду - Дарэчы, што прычапіўся да цябе гэты, як яго, Поль Шэрмэ з Антэн-2? - троху счакаўшы спыталася Даяна.*

*- А хрэн яго знае! - з абурэньнем выдыхнуў той. - Ён завярнуўся на тэме кантрабандных паставак сьпірту праз празрыстую франка-нямецкую мяжу. Ты ж чытала апошнюю Liberasion? Там напісалі, нібы я за гэтыя кантрабандныя грошы фінансаваў перадвыбарчую кампанію Коля! Можаш сабе ўявіць? Капаюць, гады!..*

***

Агата Агамота дапаліў цыгарэту й шпурнуў яе ў сьметніцу, трапна пацэліўшы ў самы яе цэнтар. Ён чакаў ужо каля чвэрці гадзіны. Паходзячы са старажытнага самурайскага роду, ён быў не прывучаны й не любіў чакаць, будучы самім верхам магчымай пунктуальнасьці. Ягоную душу разьдзіралі непрыемныя здагадкі, і ён ужо адкрываў наступны

пачак улюбёных цыгарэтаў L&M, якія палюбіў яшчэ ў Другую сусьветную...
Разглядаючы газэтны шапік, ён зьвярнуў увагу на гішпанскі часопіс Juegos Olimpicos са сьвежым інтэрвію Хуана Антоніо Самаранча. Хутка прабегшыся вачыма па газэтнай бачыне, ён знайшоў тое, што яму было трэба, і ўсьміхнуўся:
"...Міжнародны Алімпійскі Камітэт, ня гледзячы на значную колькасьць прыхільнікаў правесьці наступныя зімовыя алімнійскія гульні ў Раўбічах, прыпыніўся-такі на варыянце Нагана, за які выказалася большасьць сябраў МАК зь перавесам у адзін голас..."
Было прыемна й цёпла на душы ад думкі, што ягоная родная вёска прыйме алімпійцаў, асабліва саначнікаў, якіх Агамота вельмі любіў.
У поле зроку Агамота патрапіў нейкі сівы джэнтльмэн, які, нібы выпадкова, трымаў невялічкі партрэцік імпэратара Хірахіта. Джэнтльмэн поўнасьцю адпавядаў таму апісаньню, якое Агамота атрымаў сёньня зранку па тэлефоне ад свайго старога знаёмага, зь якім разам служыў некалі ў палку камікадзэ.
Так, Агамота быў камікадзэ. Ён прайшоў спэцыяльны курс навучаньня й нават даваў клятву памерці за імпэратара Хірахіта. Але па шчасьлівай выпадковасьці ён не пасьпеў тады, у 1945-м выканаць свой абавязак. З-за хуткага наступу савецкіх войскаў у квантунскай арміі пачаліся хаос і неразьбярыха, і сяржант Агата Агамота атрымаў падарункам ад лёсу яшчэ паўсотні зь лішкам гадоў жыцьця.
- Добры дзень, містэр Бонд. - павітаўся зь сівым джэнтльмэнам Агамота, працягваючы сваю моцную руку.
- Добры дзень, містэр Агамота. Я рады нашай сустрэчы. Я спадзяюся, Вы здагадаліся, па якой справе вы нам спатрэбіліся.
- Нават уяўленьня ня маю, - адказаў Агамота. Аднак, пры гэтым ягонае нядобрае прадчуваньне ўзмацнілася.
- Х-м, х-м, - джэнтльмэн засмяўся. - Давайце зойдзем у той паб, накацім па піву.
...Павольна адхлёбваючы піва, джэнтльмэн нягучна але ўпэўнена пачаў:
- Вы напэўна чулі пра апошні скандал у доме Віндзараў.
- Так, краем вуха.
- Тады я пачну з галоўнага. Мы заклапочаныя ростам нездаровай зацікаўленасьці вакол ложкавай эпапэі лэдзі Даяны, былой сужэнкі прынца Чарлза. Было б вельмі добра, каб прыбраць сам аб'ект зацікаўленасьці... Спадзяюся, Вы разумееце, да чаго я хілю.
- Так, не дурны. Але патлумачце, пры чым тут я? Па мне дык Даяна сымпатычная бабёнка. Я й сам не адмовіўся б спрыяць росту зацікаўленасьці самым актыўным чынам, - са смакам адзначыў Агамота, радуючыся сваёй здольнасьці жартаваць па-ангельску.
Джэнтльмэн толькі паморшчыўся. Хвіліну счакаўшы, ён рэзка адсунул свой напаўпусты куфаль піва й рэзка пачаў:
- Містэр Агамота-сан, надыйшоў час выканаць сваю прысягу!
Агамота расьсьмяяўся:
- Помніцца мне, што прысягу я даваў зусім не каралеве Элізабэт зь ейным пахатлівым сямействаm.
- Сачыце за тым што Вы гаворыце! - узбунтаваўся сівы джэнтльмэн. - Так, Вы давалі клятву імпэратару Хірахіта. І менавіта дзеля ягонага сьветлага імя Вы яе выканаеце!
Агамота самлеў. Што могуць азначаць гэтыя словы?
- Я адкрыю Вам страшную дзяржаўную тайну, якую, я ўпэўнены, Вы ўнясеце з сабой у магілу. - джэнтльмэн паклаў свой партфэль на стол і выцягнуў стуль нейкія пажоўклыя фатаграфіі й тэчкі з грыфам "Зусім сакрэтна". - Вось дакументы, якія засьведчаць Вам, што прынц Чарлз - пазашлюбны сын імпэратара Хірахіта й каралевы Элізабэт...
Слухаючы довады сівога джэнтльмэна, які круціў перад ягоным носам нейкімі паперкамі, Агамота ячшэ доўга ня мог даць веры сваім вушам і вачам...

***

*Аўтамабіль плаўна ляцеў па шашы. "Куды ён нас вязе?" - раптам падумаў Алі. Ён толькі зараз узгадаў, што не сказаў таксісту адрас.*
*- А ў нас з Парыжу адна дарога. - адгукнуўся таксіст. Але ў душу Алі закралася падазрэньне.*



*Зірнуўшы на шафёра, ён толькі зараз заўважыў, што гэта незнаёмы таксіст. Да таго ж Алі зьвярнуў увагу на ягоныя вусы - яны былі яўна сынтэтычныя.*
*- А што, Поль-Люк ня змог прыехаць? - стрымліваючы хваляваньне, спытаў Алі.*
*- Не-а, - спакойна адказаў той, робячы круты віраж.*
*- А Жан-Жак Лё Лік?*
*- Таксама заняты.*
*Машыну кінула ў іншы бок. "Толькі б Даяна не хвалявалася, - падумаў Алі, - яна так стамляецца апошнім часам"...*

***

Старшыня саўгасу павярнуўся праз сядзеньне да перакладчыка:
- Перакладзі таварышу прынцу, што за гэтым паваротам будзе наш узорна-паказальны птушнік імя узбэцкага паэта Ханзы - лепшая курыная фэрма ў раёне.
Падскокваючы ў тахт руху аўтамабілю па ямах і калдобінах, перакладчык затараторыў на вуха

маладому чалавеку з арыстакратычнымі рысамі твару словы старшыні, устаўляючы ў іх свае колкія камэнтары:
 - Гэты дзікун кажа, Ваша Высокасьць, што зараз мы прыедзем на нейкі птушнік з ідыёцкай камуністычнаю назвай "Заветы Ханзы". Клянуся Біг-Бэнам, гаворка йдзе пра чарговую сэрыю хлусьлівай бальшавіцкай прапаганды ў галіне жывёлагадоўлі!
Малады чалавек звысоку глянуў на свайго суразмоўцу:
 - Адразу відаць, Джэймс, што мая старуха прыставіла Вас да мяне, каб Вы ўсё нашае падарожжа па СССР несьлі ўсякія імпэрыялістычныя глупствы. У Савецкай Беларусі, дзе мы зараз з Вамі знаходзімся, ня можа быць паказухі. А тое, што ў гатэльным нумары адсутнічае туалетная папера, - пра якую Вы адранку пражужжалі мне ўсе вушы, - то гэта тлумачыцца імпэрыялістычным атачэньнем.
Перакладчык пакрыўдзіўся й запхнуўся. Ён чарговы раз адзначыў для сябе, што прынца Чарлза не пераканаць.
Раптам аўтамабіль дзёрнуўся раз другі й прыпыніўся.
- Ну што там, Чэсь? - спытаў шафёра старшыня. - Ды захрасьлі, гразюка пасьля ўчорашняга грыбнога



дожджыка такая, што...
Далей ішоў набор словаў, які мала быў зразумелы для такога бывалага чалавека, як Джэймс. Вылезшы з машыны, шафёр агледзеў колы й адзначыў:
- Штурхаць прыйдзецца. А ну вылазь, Ваша Высокасьць!
Зьніякавелы прынц скокнуў па самы пояс у дарожнае гразьзё, упершыню за гэты візыт па-сапраўднаму пашкадаваў пра сваю авантуру. "Эх, слухаўся б маму - сядзеў бы зараз ля каміну ў Букінгеме й пасмоктваў бы тэкілу:" думаў прынц, прыстройваючыся ззаду аўто.
 - А каб Вы, Ваша Высокасьць слухаліся маму... - пачаў было Джэймс, але шафёр заглушыў працяг ягонай думкі, гучна скамандаваўшы:
 - Раз-два-ўзялі! Яшчэ-ўзялі!..
Машына паволі стала паддавацца й зрушвацца зь месца і праз гадзіны паўтары змакрэлы, брудны й зьнясілены Чарлз зноў затрэсься па прасёлкавай дарозе, праклінаючы сваю нядаўнюю мяккацеласьць: "Сапраўдны камуніст ня мусіць баяцца выпрабаваньняў".

Між тым, як Джэймс Бонд аддаваўся невясёлым думкам па праблеме бацькоў і дзяцей, аўтамабіль заехаў у шырокі двор птушкафэрмы й зноў захрас у глыбокай непраходнай гразі ля ганку. Работнікі саўгасу зь вялікім транспарантам "Свабоду Леанарду Пэлціеру", што гурбой стаялі ля варот фэрмы, кінуліся насустрач замежнаму госьцю.
Чарлзу ўручылі велізарны каравай і пацягнулі на імправізаваную трыбуну, зладжаную ў кодабе бульбавозу. Тут, перад мікрафонам парторг Шарцэвіч ужо мераўся чытаць прамову пра гістарычнае значэньне сустрэчы на Эльбе й апошнія вылазкі імпэрыялістаў у Паўднёвай Радэзіі.
Яго Высокасьць, які абсалютна нічога не разумеў у дыпляматычных пратаколах, бясьпечна вярцеў галавой, мала клапоцячыся пра свой зьнешні выгляд, які ўжо запрыкмеціла мясцовая пацанва, што скалячыся й тыкаючы пальцамі ў бок прынца пра нешта шапталася між собку. Ягоны погляд сьлізгаў па стракатых жаночых сарафанах і брудна-шэрых ватоўках удзельнікаў сустрэчы, па птушыных вальерах і ланцужку бранятэхнікі БВА, якую на ўсялякі выпадак увялі ў вёску...
Тут Чарлз заўважыў цікаўны позірк дзяўчыны, той самай што хвіліны са тры таму падавала яму буханку хлеба, якую ён зараз апантана кусаў. Не сказаць, што яна была прыгажуняй, але нешта ў ёй было, што прыцягвала ўвагу: яна была абсалютнай супрацьлегласьцю галодным ангельскім маладзіцам, заціснутым у ціскі буржуазна-памешчыцкага этыкету віктарыянскай эпохі. Дзяўчына выпрамяняла невытлумачальны імпульс, нават партрэт члена палітбюро маршала Усьцінава ў ейных руках, здавалася, быў зараджаны нейкай эратычнай энэргіяй: Усьцінаў, ня ў прыклад астатнім членам партыйнага кіраўніцтва, чые лікі тут прысутнічалі, выглядаў так задорна, нібы мераўся выйграць трэцюю сусьветную вайну адным вырашальным маршкідком па перасечанай мясцовасьці.
У Чарлза перахапіла дых. Страшэнна блытаючы ангельскія й беларускія словы, ён пацягнуў за рукаво парторга:
 - Кхто іс хэты д'евушка? Як іс шы нэйм? Ці рубіць інгліш?
Парторг несамхоць адарваўся ад мікрафону, дынамікі якога працягвалі па інэрцыі кашляць апошнія словы аратара, рэхам разносячы іх па наваколльі:
- Якая яшчэ дзевушка? А, гэта. Ды гэта Дыянка Барсуковіч з 5-ай брыгады, старога Хадоса дачка. А наконт моваў, яно канечне іх знае. Закончыла наша Капыльскае ПТВ і свабодна валодае расейскай. Па-ангельску тожа пайме. Пазор хішчнікам-неакаланіалістам, каторыя застаўляюць братцкі нам радэзійскі народ браць у рукі...
 - Дыянка!.. - ціха прашаптаў Чарлз...

***

*Раптам Даяна заўважыла, што ў шафёра...*
(Працяг у наступным нумары)

# У масьцях брыгады

## Ірляндзкі народны эпас

Ірляндыя. 1920 год. У Дублін тайна прыяжджае эмісар "Інстытуту для Рэвалюцыі ў Заходняй Эўропе" Поль Казанэ. У горадзе неспакойна, сілы ангельскага Каралеўскага ОМОНу разганяюць несанкцыянаваны мітынг прыхільнікаў Ірляндзкай Рэспубліканскай Арміі....

КОМОН?

Подданные! Ваше собрание не санкционировано!..




































А мо' ты, мілы чалавек, стукачок?
Сукай буду, першай ходкі не забуду!
Ладна, кокнуць яго заўжды пасьпеем


—Чё, снова националисты бесятся?
—На перекрёстке улиц Капиталистической и королевы Виктории беспорядки


Цікайце, таварышы, я прыкрыю!
Шэрвудзкі воўк табе таварыш!


Закашу на сябра раялісцкага саюзу моладзі...
Жыве кароль Георг!


Ну что, шеф, вкатаем ему штраф на 40 минималок?
Какое, да все 50! Он же по-ирландски базарит!


Пройдемте, молодой человек
А ў чым справа? Я стаяў, нікога не чапаў...


Я буду скардзіцца ў палату лордаў!


А чё за сережка?
Голубой штоль?
Гы-гы...


Попал бы ты в мою часть , я б тебе...


У нас у Оксфардзе была вайсковая катэдра!


Щас договоришься, что на сутки поедешь!
Ну-у-у, начальнік!
Документы!


Помощник депутата? Хорошую ксиву ты себе справил!
А то ж!


Ладно, сегодня я добрый...
Спасіба, начальнік!


Констебль Тишксли, соберите трупы, мы уезжаем!


Мо' гранату кінуць?.. А. ладна...


Я тебе кину! Умник,
бля...


Ишь, храбрец выискался!
Вконец обнаглели эти помощники депутатов


Ну ні х... сабе! Ледзь не праваліўся!










Прызначаць яўкі тут — у духу ІВВ. Зрэшты, і паролі...

тайная яўка ІВВ





































працяг будзе



# газэта “Навінкі”:

# За намі стаяць мільёны!

Абсалютна незалежная газэта “НАВІНКІ” Заснавальнік Павал Каларадзкі; галоўны рэдактар гер Нямчук; пры творчай падтрымцы менскага контар-культурнага бомонду. За недакладнасьць пададзеных матэрыялаў рэдакцыя адказнасьці не нясе. Тыраж 299 экз. На правах рукапісу.